# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 43 (305) 1 – 7 лістапада 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ІНФАРМУЕ






• Стар. 9

ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

ЛІСТАПАД
АРТ-ВІТРАЖ

• Стар. 2—4


• Стар. 3





• Стар. 9


• Стар. 5



• Стар. 2

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ




• Стар. 8


• Стар. 12

КАСТРЫЧНІК
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:

АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

• Стар. 8—9


• Стар. 8


• Стар. 8


• Стар. 9


• Стар. 10

# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

## У ДЗЕНЬ РАСТВА ХРЫСТОВА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб заснаванні прэміі "За духоўнае адраджэнне", у якім гаворыцца:

Заснаваць пяць штогадовых прэмій "За духоўнае адраджэнне", якія прысуджаюцца за выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай сферы, накіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, што спрыяюць сцвярджэнню духоўных каштоўнасцяў, ідэй сяброўства і братэрства паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў.

**ПАЛАЖЭННЕ**
**аб прэміі**
**"За духоўнае адраджэнне"**

1. Прэмія "За духоўнае адраджэнне" (далей — прэмія) прысуджаецца за выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай сферы, скіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, якія спрыяюць сцвярджэнню духоўных каштоўнасцяў, ідэй сяброўства і братэрства паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў.

Вылучэнне твораў на атрыманне прэміі "За духоўнае адраджэнне" здзяйсняецца творчымі арганізацыямі і грамадскімі аб'яднаннямі, установамі культуры, навуковымі і навучальнымі ўстановамі, працоўнымі калектывамі, рэлігійнымі арганізацыямі на пасяджэннях прэзідыумаў і калегій, навуковых і рэдакцыйных саветаў, сходах працоўных калектываў і рэлігійных арганізацый у атмасферы высокай прафесійнай патрабавальнасці і галоснасці.

На атрыманне прэміі могуць вылучацца творы, апублікаваныя альбо публічна выкананыя на беларускай ці рускай мовах не больш, чым за два гады да прысуджэння прэміі, а таксама асобы, якія актыўна ўдзельнічаюць у падзвіжніцкай дзейнасці.

Канчатковы адбор твораў на атрыманне прэмій здзяйсняецца Міністэрствам культуры па ўзгадненні з Беларускай Праваслаўнай Царквой.

2. Прэмія прысуджаецца Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ўручаецца 7 студзеня, у Дзень Раства Хрыстовага.

Штогод прысуджаюцца пяць прэмій.

Памер грашовай часткі прэміі вызначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

3. На атрыманне прэміі могуць вылучацца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, у тым ліку святары, а таксама творчыя, працоўныя і іншыя калектывы.

4. Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб прысуджэнні прэмій публікуецца ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі напярэдадні ўручэння прэмій.

5. Асобам, якім прысуджаны прэміі, ва ўрачыстай атмасферы ўручаюцца таксама Дыплом і Ганаровы медаль лаўрэата. Пры прысуджэнні прэміі калектыву грашовая частка прэміі падзяляецца паміж яго членамі пароўну.

*Міністэрства культуры РБ паведамляе, што матэрыялы (прадстаўленне, характарыстыка, копіі публікацый і да т.п.) павінны быць накіраваны да 1 снежня 1997 г. на адрас: г.Мінск, вул.Машэрава, 11. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Тэлефон для даведак: 223-74-12.*

## ВОСЕНЬ, ШЛЯГЕР І БУЛАТ




Не толькі сталым людзям не хапае сёння галасоў "учарашняй" эстрады, яе ўзнятасці, сардэчнасці, нават патрыятычнасці, калі хочаце. Таму фестываль "Залаты шлягер", які прызваны адрадзіць і захаваць лепшыя традыцыі эстраднага песеннага жанру айчыннай і сусветнай культуры, ужо два гады радуе самае шырокае кола слухачоў. На гэты раз Магілёў будзе прымаць гасцей "Залатога шлягера-97" з **4 па 9 лістапада**.

Што ні імя — то "зорка": Э.П'еха, Т.Міянсарава, А.Веліканава, А.Вескі, У.Трошын, Р.Ібрагімаў, М.Гнацюк, І.Суручану, В.Мулерман, М.Магамаеў, Р.Ларэцці. Акрамя выканаўцаў на фестываль запрошаны і стваральнікі песень: А.Пахмутава і М.Дабранраваў, Р.Паўлс, П.Лядава, І.Лучанок.

Тры зусім розныя праграмы разлічаны на ўсе густы і духоўныя запатрабаванні: канцэрты груп "Юрай Хіп", "Залатое кальцо" і вечар аўтарскай песні, прысвечаны памяці Булата Акуджавы (у ім прымуць удзел С.Нікіцін, В.Кадэнка, А.Суханава, А.Казанцава, А.Баль).

У апошнія гады кожны музычны фестываль ставіць сабе мэтай зазірнуць у наша творчае "заўтра", і з гэтай нагоды праводзяцца конкурсы маладых выканаўцаў. "Залаты шлягер" таксама не абышоў гэтую традыцыю, і ў яго конкурсе прымуць удзел спевакі з Беларусі, Украіны, Расіі, Малдовы, Грузіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Балгарыі, ЗША, Ізраіля.

Бадай, гэта самая значная падзея наступнага месяца, самая буйная і хвалюючая, таму што ўвасабляе сувязь часоў. І ўсе сустрэчы, якія адбываліся і, безумоўна, будуць адбывацца на кожным "Залатым шлягеры", — эпахальныя і не выпадковыя. Чым стане "Залаты шлягер-97"? Пажывем — пабачым.

**Ганна АЛАДАВА**

## ПЛАН
### асноўных мерапрыемстваў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на лістапад 1997 года

| Дата правядзення | Назва мерапрыемства | Месца правядзення |
|---|---|---|
| 1-11 | Міжнародны фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы" | Мінск, Белдзяржфілармонія тэл: 223-74-12 |
| 5 - 6 | Гастролі МХАТа ў г.Мінску | Мінск, Акругны Дом афіцэраў тэл.: 223-91-31 |
| 20 - 30 | Міжнародны фестываль "Беларуская музычная восень" | Мінск, Белдзяржфілармонія тэл.: 223-74-12 |
| 21 | Рэспубліканская канферэнцыя "Слуцк і культура Беларусі ХУІІ-ХХ стагоддзя" | Слуцк тэл.: 223-73-63 |
| 21 - 23 | Тэатральнае свята, прысвечанае 190-годдзю з дня нараджэння В.І.Дуніна-Марцінкевіча | Бабруйск тэл.: 223-91-31 |
| 22 - 27 | Міжнародны кінафестываль "Лістапад - 97" | Мінск, к/з"Мінск" тэл.: 223-71-14 |

## ДЗЕЦІ, ДЗЕЦІ, ДЗЕ ВАС ПАДЗЕЦІ?

***Гэтым рытарычным пытаннем, бывае, не раз задаюцца бацькі, калі на іх галовы звальваюцца канікулы. Размеркаванне часу бацькоў не мяняецца, а вось у дзяцей вольных гадзін прыбаўляецца. Хочаш не хочаш, трэба прыстасоўвацца, штосьці прыдумляць. Кудысьці трэба вольны час сваіх родных дзетак падзець. Дый не проста так "падзець", а каб было дзецям цікава і пазнавальна.***

***Падумалі над гэтым пытаннем і ў турагенцтве "Аверс-тур", што створана пры Фондзе культуры, і, падаецца, знайшлі добрае рашэнне праблемы.***

***Расказвае менеджэр па турызме Таццяна ГОЎЗІЧ, якая спецыялізуецца на арганізацыі экскурсій для школьнікаў і студэнтаў:***

— Мы распрацавалі тэматычныя экскурсіі па Беларусі, пэўным чынам адаптаваныя да школьнай праграмы. Каб веды, набытыя вучнямі па гісторыі, прыродазнаўству, літаратуры, замацоўваліся, удакладняліся ў час азнаямлення з культурнымі помнікамі нашай краіны. Іншымі словамі, мы адкрываем Беларусь для яе юных жыхароў.

Паспяхова арганізоўваюцца экскурсіі па сямі асноўных тэматычных накірунках. Гэта праграма экскурсій "Па старажытных гарадах Беларусі", у якую ўваходзяць выправы "У найстаражытнейшы горад краіны" (Полацк), "Падарожжа ў горад майстроў" (Заслаўе), "Паданні роду Радзівілаў" (Мір, Нясвіж) і інш. Можна азнаёміцца з помнікамі архітэктуры, наведаць гістарычныя музеі.

Экскурсіі "Мой родны кут" датычацца мясцін, звязаных з беларускай літаратурай. Перш-наперш гэта нашыя славутыя песняры Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Да літаратурных вандровак можна будзе аднесці экскурсіі на радзіму Адама Міцкевіча. Як вядома, у наступным годзе споўніцца 200 гадоў з дня яго нараджэння, чакаецца небывалы прыток турыстаў з-за мяжы. Зараз вядзецца праца па аднаўленні помнікаў, звязаных з яго імём. Плануецца памнажэнне аб'ектаў на гэтым маршруце. Гучаць такія імёны, як Тадэвуш Касцюшка, Эліза Ажэшка. Неўзабаве мы зможам і нашых школьнікаў правесці па гэтым аднoўленым маршруце.



Ёсць экскурсіі па літаратурных музеях Беларусі. Гэта і "Багдановіч у Ракуцёўшчыне", і мясціны Францішка Багушэвіча, Кузьмы Чорнага. Наступны накірунак — мастацкі. "У свеце прыгожага" — Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, "Майстар пейзажнага настрою" — Музей Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, беларускі мастак-партрэтыст (дом-музей Валенты Ваньковіча).

Маецца ў нас прыродазнаўчы накірунак. На Беларусі шмат запаведнікаў, заказнікаў. Гэта Нарач, Браслаўскія азёры, Бярэзінскі запаведнік, Белавежская пушча. У кожным запаведніку ёсць музей прыроды, ёсць пры іх гатэлі ці кэмпінгі, асабліва тое датычыцца Белавежскай пушчы. Дзецям гэта вельмі падабаецца. А з практычнага боку — гэта экалагічнае выхаванне і, вобразна кажучы, вырошчванне любові да жывой прыроды.

Мы маем магчымасць паказаць дзецям помнікі народнага дойлідства, пазнаёміць іх з беларускім фальклорам. Мы прапануем экскурсіі ў Раўбічы ў музей беларускага народнага мастацтва. Акрамя, таго, мы можам нашым вучням паказаць помнікі народнага дойлідства. Непадалёк ад Мінска дзейнічае музей-запаведнік "Менка". Там размешчаныя народныя драўляныя пабудовы, сабраныя з усёй Беларусі. Бярэцца, напрыклад, Цэнтральны рэгіён, ён прадстаўлены адрэзкам вуліцы. І гэта не муляжы, не макеты, а сапраўдныя хаты, якія калісьці стаялі ў канкрэтным месцы, людзі ў іх жылі, а пасля гэтыя пабудовы былі перавезеныя ў музей.

Таксама мы не можам адысці ад ваеннай тэматыкі. Мы прапануем экскурсіі ў Хатынь, на Курган славы, у Брэсцкую крэпасць, у Музей гісторыі Айчыннай вайны ў Мінску і яго філію на "Востраве слёз".

Але гэта не ўсё. Мы наладжваем не толькі экскурсіі, якія мы ўжо распрацавалі і праграма якіх жорстка ўсталявана, але мы прапануем такую паслугу, як падрыхтоўку экскурсій паводле заявак. Напрыклад, нам тэлефануюць і кажуць: мы цікавімся Маркам Шагалам. Такой спецыяльнай экскурсіі няма, але ж мы не можам арганізаваць. Дамаўляемся з экскурсаводамі, робім аглядную экскурсію па горадзе Віцебску і ўключаем у яе дом-музей Марка Шагала.

Да нас могуць звяртацца бацькі, настаўнікі. Нядаўна да нас звярнулася школа з Магілёўшчыны, яны цікавяцца Купалаўскімі мясцінамі. Мы разам зрабілі экскурсію "Мінск і Купалаўскія мясціны — Вязынка".

Як кажуць, магчымыя варыянты, і падыход у нас індывідуальны і гібкі. Што яшчэ — нашыя экскурсіі разлічаны на адзін дзень, гэтак зручней. Але бываюць групы, якія могуць паехаць па некалькіх гарадах Беларусі. Для гэтага мы можам знайсці таннейшае пражыванне харчаванне. Калі да нас звяртаюцца, мы ўсё пралічваем, абмяркоўваем, удакладняем.

Падрыхтаваць экскурсію магчыма за трычатыры дні, але афармленне экскурсіі зойме два тыдні, таму што зараз, пасля выпадку з бельгійскім аўтобусам, выйшла новая пастанова, што на кожныя пятнаццаць дзяцей павінен быць адзін дарослы. Мы павінны зацвердзіць суправаджаючых. Пасля праходзяць інструктаж па тэхніцы бяспекі вадзіцелі, суправаджаючыя, самі дзеці. На студэнтаў гэткія строгія правілы не распаўсюджваюцца.

Таксама мы дамаўляемся наконт кошту. У асноўным усё залежыць ад транспарту: як толькі падымаецца кошт на паліва — аўтаматычна падымаецца кошт на ўсё астатняе. Але мы стараемся рабіць цэны даступнымі.

Увогуле канікулы — гэта час экскурсій і падарожжаў. Чалавек нападаецца, каб убачыць і асэнсаваць свет, дзе ён жыве. А юны чалавек, тым больш, мае нічым не абмежаваную цягу пазнання.

**Занатаваў**
**Серж МІНСКЕВІЧ**

# ШТО АДБУДЗЕЦЦА Ў ЛІСТАПАДЗЕ?

***НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ***

З **14 лістапада** — выстава памяці Леаніда Марчанкі (1941 — 1996).

Таленавіты мастак пражыў усяго 55 гадоў, трыццаць з якіх аддаў творчасці. У альбоме "Леанід Марчанка", што быў выдадзены нядаўна ў выдавецтве "Беларусь", адзначаецца: "Лёс падарыў нам мастака, які сам быў узрушаны цудам усеагульнага быцця, багаццем і шматзначнасцю жыцця, сілай і характарам прыроды і ўсякай рэчы, які зараджаў нас пачуццём дачынення да роднай зямлі і тым самым выканаў вельмі важную місію — мастацкую і чалавечую".

Менавіта гэту місію — мастакоўскую і чалавечую — Леанід увасобіў у сваіх афортах і літаграфіях, малюнках і акварэлях. Увасабляў шчодра, самааддана, таленавіта, "адкрываючы харастно ў будзённым", "у простым матыве — гармонію свету"... І за гэта яму — дзякуй!

* * *

**Да 7 лістапада** працягне работу выстава твораў выпускнікоў творчай акадэмічнай майстэрні Міністэрства культуры Беларусі — "Вяртанне да вобраза" (кіраўнік — М.Савіцкі).

З **30 кастрычніка** працуе выстава "Мастацтва Міншчыны XVI — XVIII стагоддзяў" (з фондаў музея).

***РЭСПУБЛІКАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ САЮЗА МАСТАКОЎ (ПАЛАЦ МАСТАЦТВА)***

З **28 кастрычніка** — выстава твораў Уладзіміра і Тамары Васюкоў — "Графіка. Кераміка".

З **31 кастрычніка** — юбілейная выстава выяўленчага мастацтва, прысвечаная 50-годдзю Мінскай мастацкай вучэльні.

З **11 лістапада** — выстава твораў Айшы Александровіч.

З **24 лістапада** — выстава жывапісу Кастуся Харашэвіча, прысвечаная 70-годдзю з дня яго нараджэння.

***ГАЛЕРЭЯ "МАСТАЦТВА"***

З **11 лістапада** — выстава твораў Юрася Хілько.

З **24 лістапада** — выстава жывапісу заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі краіны Уладзіміра Тоўсціка.

***МАСТАЦКІ ЦЭНТР "ЖЫЛЬБЕЛ"***

З **30 кастрычніка** — выстава жывапісу Аляксандра Дзямідава "Рамантычныя фрагменты".

***НАВАПОЛАЦК***

З **4 лістапада** ў музеі гісторыі і культуры — выстава жывапісу народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва.

# ПЛАСТЫКА, ЯКАЯ НЕ МАЕ АНАЛАГАЎ...

У галерэі "Мастацтва" працягвае работу персанальная выстава графікі і скульптуры Уладзіміра Вішнеўскага.

Уладзімір — выхаванец Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, цяпер — загадчык кафедры ў Беларускай акадэміі мастацтваў. У рэспубліканскіх і замежных выставах удзельнічае больш за 20 гадоў. У яго ным творчым актыве — станковая графіка (афорт, малюнак, тэмпера), кніжная ілюстрацыя (афарміў кнігі Я.Коласа, К.Крапівы, А.Разанава, М.Лужаніна, Ф.Дастаеўскага, А.Пашкевіч (Цёткі), а таксама экслібрыс, жывапіс. У апошні час эксперыментуе і ў галіне кампазіцыйнай скульптуры.

У розныя гады шырокі рэзананс у мастацкай грамадскасці атрымалі яго ныя графічныя серыі "Вянок беларускіх песень", "Пабудова чалавека", "Авантэмы", "Кірмаш спадзяванняў", "Птушкаловы".



*У.Вішнеўскі. "Туга". Дрэва.*

На сённяшняй выставе прадстаўлены 12 афортаў і 9 скульптур-разваг аўтара "пра час і пра сябе", пра прызначэнне чалавека ў сённяшнім свеце, пра яго ныя надзеі і расчараванні.

"П'ета", "Дзяды", "Смутак", "Корст", "Будка суфлёра", "Сейбіт", "Прысвячэнне У.Караткевічу", "Раўнадзенства", "Белыя і чорныя анёлы", "Невядомы Бог", "Дастаеўскі", "Перамагчы дракона" — гэтыя і іншыя творы ўяўляюць з сябе асаблівы філасофска-паэтычны свет, навізна і адметнасць якога бяспрэчныя і відавочныя. Эмацыйны і стылістычны дыяпазон вобразнай сістэмы У.Вішнеўскага шырокі, мастак валодае мноствам адценняў пачуцця і развагі, графічных і скульптурных прыёмаў, заснаваных на сінтэзе розных матэрыялаў.

І ў гэтым плане творчасць акадэміка графікі Беларускай акадэміі мастацтваў выяўленчага мастацтва Уладзіміра Вішнеўскага — з'ява вельмі адметная, якая не мае канцэптуальных аналагаў з творчасцю іншых мастакоў яго нага пакалення.

**Б.К.**

# ЕЎРАПЕЙСКІ ТВОРЦА НА БЕЛАРУСІ

Восеньскія імпрэзы штогадовага фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы" ўжо сталі звыклымі для мінскага слухача. **4 — 10 лістапада** 1997 года адбудзецца сёмы фестываль, які будзе прысвечаны творчасці славутага еўрапейскага кампазітара нямецкага паходжання Іагана (Яна) Давіда Голанда (1746 — 1827), чыё жыццё і творчасць амаль што паўстагоддзя былі звязаныя з Беларуссю.

Імя Голанда ўжо знаёмае беларускай публіцы — найперш дзякуючы намаганням даследчыцы Вольгі Дадзіёмавай, якая знайшла ў замежных бібліятэках і прывезла на Беларусь копіі шмат якіх твораў кампазітара. І вось нарэшце мы маем манаграфію пра Яна Голанда на беларускай мове, напісаную В.Дадзіёмавай спецыяльна для фестывалю. Вядома, што такога кшталту літаратуры нам вельмі нестае, таму выданне голандаўскага буклета — сапраўдная радасць для слухачоў сёлетняга фестывалю — і аматараў, і спецыялістаў, якія вывучаюць гісторыю айчыннага мастацтва.

Праграма канцэрта "Голанд у Нясвіжы", што адбудзецца **6 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі**, перадае атмасферу музычна-тэатральнага жыцця аднаго з найбуйнейшых беларускіх культурных цэнтраў тагачаснай Беларусі.

Шэсць нумароў з "Агаткі" прагучаць у праграме **6 лістапада** разам з іншымі творамі, напісанымі Голандам у Нясвіжы: кантатай "Смелы, мужны Караль Другі" (прысвечана ўладару Нясвіжа) і Дывертысментам для сімфанічнага аркестра ў выкананні ансамбля "Класік — Авангард" і салістаў Лесі Лют, Алены Бундзелевай, Рыгора Палішчука і Віктара Скорабагатава. Акрамя таго, будуць выкананы марш і тры паланезы Мацея Радзівіла.

Танцы, Ваенны паланез і ўрыўкі з оперы "Чужое багацце нікому не на карысць" складаюць аснову канцэрта "Голанд у Вільні" (**8 лістапада, зала Камернай музыкі Белдзяржфілармоніі**), у якім прагучаць таксама творы Міхаіла Клеафаса Агінскага і Напалеона Орды — кампазітараў, жыццё і творчасць якіх звязаныя з гэтым горадам.

Нарэшце, канцэрт фартэпіяннай музыкі Голанда (прагучаць таксама Варыяцыі ягонай дачкі Іааны), у якім прымуць удзел навучэнцы музычнай гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, адбудзецца **10 лістапада ў Канцэртнай зале каледжа** (Плошча Свабоды, 7).

Вельмі спадзяемся, што творы Голанда абудзяць у публікі вялікую цікавасць, а цудоўная, месцамі іранічная ці, наадварот, пранікліва і нават сентыментальна-наіўная, але заўсёды гарманічная і ўзнёслая музыка падорыць слухачам — нам з вамі — хвіліны сапраўднай асалоды. Сардэчна запрашаем на наш фестываль!

**Наталля СОБАЛЕВА,**
**музычны рэдактар**
**"Беларускай Капэлы"**

***У лістападзе Беларуская капэла ладзіць фестываль музычных твораў Яна Голанда. Апрача знакамітай оперы "Агатка" на фестывалі прагучаць іншыя творы нямецкага кампазітара, напісаныя ў Нясвіжы. Пра гэта распавядае сёння музыказнаўца Вольга ДАДЗІЁМАВА:***

— У 1802 г. Ян Голанд пераязджае ў Вільню, куды яго запрашаюць на пасаду кіраўніка музычнага жыцця найбуйнейшай у рэгіёне навучальнай установы — Віленскага ўніверсітэта. У Вільні ён піша пераважна фартэпіянную музыку і працуе ў музычна-тэарэтычнай сферы: яго "Акадэмічны трактат аб сапраўдным мастацтве музыкі" становіцца адным з першых падручнікаў па тэорыі і практыцы музычнага мастацтва, прызначаных для універсітэцкай моладзі.

У Нясвіжы Ян Голанд апрача оперы "Агатка" напісаў яшчэ адну — "Чужое багацце нікому не на карысць". Адметна, што ў яе аснове таксама ляжыць гісторыя пары закаханых сялян, якія, у адрозненне ад герояў "Агаткі", самі знаходзяць выйсце са складаных сітуацый. Гэтая опера таксама, як і папярэдняя, поўніцца мясцовым каларытам, які закрануў і яе музыку: шмат якія мелодыі і рытмаінтанацыі бяруць пачатак са славянскіх вытокаў.

Амаль адначасова з операмі піша Голанд і кантату, прысвечаную свайму апекуну і патрону, уладару Нясвіжа — Каралю Радзівілу. Гэтае сачыненне з'яўляецца ўзорам камернай кантаты, панегірычны змест якой увасабляецца ў светлай і ўзнёслай музыцы.

І яшчэ адзін твор напісаў маэстра ў Нясвіжы — балет "Арфей і Эўрыдыка", які быў пастаўлены ў адзін дзень з "Агаткай". Сюжэт балета заснаваны на вядомым міфе аб Арфеі, які натхняў кампазітараў розных часоў і народаў: ад Пеpы і Качыні да Глюка і Фаміна. Аднак нават у параўнанні са славутымі шэдэўрамі галандаўскі твор не губляе сваёй дасканаласці. Напісаны ў традыцыях французскіх уверцюр — з павольным уступам і хуткай асноўнай часткай, ён глыбока і ярка раскрывае трагічны змест падання.

Неадночы выконваліся на Беларусі фрагменты оперы Голанда "Агатка"; Беларускім радыё зроблены поўны яе радыёзапіс. Але іншыя творы кампазітара ў нас пакуль што не выконваліся, і гэты прабел запаўняе сёлетні манаграфічны фестываль, праграмы якога панарамна пададуць тры асноўныя перыяды творчасці кампазітара — гамбургскі, нясвіжскі і віленскі (у выкананні Ансамбля салістаў "Класік — Авангард"), таксама пазнаёмяць слухача з яго фартэпіяннай музыкай. Прапануем кароткі агляд фестывальных канцэртаў.

Творы кампазітара 1770-х гг. — "Дывертысмент" для сімфанічнага аркестра, напісаны ў форме варыяцый на тэму Е.А.Шульца, а таксама песні са зборніка "Гульня без карт, або Гарманічныя гутаркі для пачаткоўцаў для клавіра з дзвюма скрыпкамі" (Гамбург, 1776) — прагучаць **4 лістапада** ў выкананні ансамбля "Класік — Авангард" і салістаў-спевакоў. Дарэчы, уся музыка Голанда, што будзе прадстаўлена на фестывалі, прагучыць у інструментоўцы Уладзіміра Байдава, а пераклады нямецкіх і польскіх тэкстаў вакальных твораў на беларускую мову зроблены Васілём Сёмухам.

# ІМПРЭЗЫ "ДЛ"

Лістападаўская афіша Дома літаратара пачынаецца прэзентацыяй "Выбраных твораў" Вацлава Ластоўскага. Гэтая кніга — трэці па ліку том "залатой" бібліятэкі Беларусі, які ўбачыў свет — як і першыя аднатомнікі Янкі Чачота і Максіма Багдановіча — дзякуючы руплівіцам міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор". Удзельнікі прэзентацыі змогуць набыць унікальнае выданне і адкрыць для сябе Ластоўскага як публіцыста, празаіка, паэта і перакладчыка. Пра постаць Вацлава Ластоўскага будуць прамаўляць Язэп Янушкевіч, Васіль Зуёнак, Ніл Гілевіч, Уладзімір Конан і іншыя пісьменнікі і навукоўцы. У мастацкай частцы прагучаць урыўкі з твораў Ластоўскага, аўтэнтычныя спевы. Вядучы — Янка Саламевіч. Прэзентацыя адбудзецца **4 лістапада**.

Прыхільнікі таленту Васіля Жуковіча змогуць сустрэцца з паэтам **14 лістапада**. Праграма па ідэі творчасці падрыхтаваная тэатрам "Зьніч". У ёй занятыя спявак Леанід Нікольскі, артыст Віктар Манаеў, узорны хор "Дружба" пад кіраўніцтвам Таццяны Валошынай, а таксама




Жэня Жуковіч — дачка паэта.

**20 лістапада** — вечарына "З якіх крыніцаў чысціня такая...", прысвечаная 85-м угодкам народнага паэта Максіма Танка. Саюз беларускіх пісьменнікаў ладзіць яе разам з Мінскім педагагічным універсітэтам, які носіць імя паэта. Весці рэй на гэтай урачыстасці будзе паэт Васіль Зуёнак.

Завяршае лістападаўскую афішу вечарына "І песня водгулле спаткае...", прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння народнага песняра Якуба Коласа. Яна пройдзе **26 лістапада**.

Усе імпрэзы пачынаюцца а 18-й гадзіне.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**

# ПАД ЗНАКАМ СВЯТЛА

Канцэртная зала Дзяржаўнай філармоніі **7 лістапада** запрашае мінчукоў паглядзець праграму "Зоркі джаза на Беларусі"; **4 лістапада** адбудзецца канцэрт, прысвечаны памяці Ірыны Цвятаевай, прагучаць творы Баха і Моцарта; **6 лістапада** — канцэрт Дзяржаўнага ансамбля "Харошкі", **8-га** выступае Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга, а таксама выступіць ансамбль "Камерата" (мастацкі кіраўнік Ігар Мельнікаў), **13-га** на сцэне філармоніі — ансамбль песні і танца з Гродна, **14 лістапада** адбудзецца сольны канцэрт Андрэя Паначэўнага, у праграме — творы Брамса і Шуберта.

У зале камернай музыкі ў касцёле Святога Роха на Залатой Горцы **13 і 14 лістапада** адбудуцца канцэрты арганнай музыкі, саліруе Таццяна Арлова (Украіна), у праграме — музыка Баха і Мендэльсона; **18 лістапада** ў зале камернай музыкі — зноў ансамбль салістаў "Класік — Авангард", прагучыць сюіта Вернера (першае выкананне).

**А.Р.**

П: ПАДЗЕІ, ПРАБЛЕМЫ, ПРАГРАМЫ, ПРАЕКТЫ

ЛІСТАПАД

АРТ-ВІТРАЖ

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

## САМО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ...

***Кожны другі і чацвёрты чацвер ля помніка Янкі Купалы вось ужо шосты месяц збіраюцца аматары беларускага слова, каб паслухаць выступленні паэтаў, падзяліцца ўражаннямі ад кніг, што выйшлі ў беларускіх выдавецтвах — звычайна гаворкі, што ўсчынаюцца на сустрэчах, працягваюцца і надалей, калі слухачы не разыходзяцца, удзячныя і ўсхваляваныя. Наш карэспандэнт сустрэўся са Старшынёй рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы (ТБМ), вядомым паэтам Генадзем БУРАЎКІНЫМ.***

**— Генадзь Мікалаевіч, як нарадзілася ідэя штомесячных літаратурных сустрэч ля помніка народнаму паэту?**

— У сітуацыі няўвагі і непавагі да роднага слова мы — ТБМ і Сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) вырашылі апеляваць да самага дарагога, што ёсць (ці павінна быць) у кожным чалавеку: памяці продкаў, якія праз стагоддзі ўсё ж пранеслі крыштальна-чыстае, прыгожае слова самабытнага славянскага народа, а таксама да сэрца, якое, мабыць, найбольш чуйна адклікаецца на тую энергетыку, якая "закладзена" ў паэзіі. Прынамсі, мы так і ставілі задачу — само Слова павінна абуджаць лепшае ў чалавеку, у тым ліку і жаданне абараніць нацыянальны здабытак беларусаў — родную мову.

**— Што новага, апроч ужо "апрабіраванай" драматургіі кожнай сустрэчы: слова вядомага паэта, затым — пачаткоўца, затым — кожнага, хто хоча выступіць і падзяліцца нечым сваім, чакаецца ў лістападзе?**

— Па-першае, кожная сустрэча, апроч звыклага рытму, нясе ў сабе новае. Прыходзяць новыя людзі, прычым самага рознага кшталту — рабочыя, студэнты, аднойчы чытаў свае вершы міліцыянер... Па-другое, мы пачынаем цяпер своеасаблівы "агляд нашых шэрагаў". 30 кастрычніка праводзіцца абласная рада ТБМ у Віцебску, 11 лістапада свята роднай мовы рыхтуецца праводзіць Гомель. Спадзяемся, што і гэта стане традыцыяй.

**— Але з кожным разам збірацца ў скверы Янкі Купалы ўсё цяжэй — ідуць халады...**

— Нас "прытуліў" музей Янкі Купалы, стаўшы як бы трэцім "апекуном" нашых паэтычных сустрэч. І халады не толькі не адымаюць нашых актывістаў, але як бы і дадаюць іх — мы ўжо маем сваё ядро аматараў паэзіі, тых, хто прыходзіць сюды пастаянна, у нас склалася пэўная атмасфера — сардэчная, шчырая, а галоўнае, заўсёды непаўторная...

**— Поспехаў Вам і новых твораў! А яшчэ — увагі ўсяго нашага грамадства да становішча роднай мовы, найперш уладаў. І разумення таго, што народ без уласнай мовы ніколі не стане адчуваць сябе паўнавартасным, роўным сярод іншых, і не выйдзе на свой уласны шлях...**

**В.І.**

## МУЗЫКА І АСТРЫ

Паэт Леанід Дранько-Майсюк малады, але ўжо даволі вядомы ў свеце беларускай песеннай культуры. 8 лістапада ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца яго творчы вечар, мастацкім кіраўніком якога выступае Міхаіл Фінберг.

У канцэрце возьмуць удзел салісты аркестра М.Скорыкаў, Н.Балдзіна, Л.Вайтовіч, Т.Воранава, Г.Грамовіч, І.Дарафеева, І.Дуброўская, Т.Майсурадзе, Н.Тамела, Я.Навуменка, Стэла.

Будуць прысутнічаць і ганаровыя госці: народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка з Алесяй, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, паэт Уладзімір Някляеў. Праспяваюць таксама дзеці — эстрадны ансамбль "Званочкі" пад кіраўніцтвам Валянціны Сярых.

Весці праграму запрошаны Ірына Смольская і Алесь Байкоў. І ўвесь вечар на сцэне — Дзяржаўны канцэртны аркестр РБ пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

**Г.А.**

## Я — МАЛАДЫ

**15 — 16 лістапада** (субота — нядзеля) у Палацы моладзі на Мінскім моры пройдзе фестываль рэспубліканскіх маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў. Арганізатарамі выступаюць Нацыянальны савет маладзёжных і дзіцячых арганізацый, а таксама 26 арганізацый-удзельнікаў. Фестываль праводзіцца з мэтай азнаямлення грамадскасці з маладзёжным рухам і маладзёжнымі арганізацыямі, а разам з гэтым з мэтай прыцягнення найбольш актыўнай моладзі да ўдзелу ў грамадскім жыцці і абмеркавання набалелых і важных пытанняў пачынаючы ўжо з фестывалю.

Кожная арганізацыя на фестывалі будзе імкнуцца прыцягнуць у свае шэрагі новых членаў, а для гэтага неабходна інфармацыю пра сябе падаць найбольш поўна і, пажадана, нетрадыцыйна, каб звярнуць увагу цяперашняй, недаверлівай да розных аб'яднанняў, моладзі. Выканаўчы сакратар маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум" Сяргей Казлоўскі сказаў, што яны мяркуюць зрабіць гэта праз цікавыя і пазнавальныя інфармацыйныя стэнды, праз сваіх агітатараў, а таксама дзеля гэтага ладзяцца літаратурна-эстрадна-спартыўныя выступленні членаў арганізацыі і запрошаных гасцей. Арганізацыю будуць прадстаўляць і выступоўцы на розных тэматычных секцыях і "круглых сталах".

На фестывалі будуць дзейнічаць выставы, будзе праводзіцца латарэя. Увечары першага дня адбудзецца дыскатэка, а на наступны дзень пройдзе канцэрт беларускіх рок-зорак. Акрамя ўсяго гэтага арганізатары абяцаюць шмат прыемных сюрпрызаў і нечаканасцяў.

**М.Б.**

## ЗНОЎ "МАЙСТРЫ МАСТАЦТВАЎ — ПРАЦАЎНІКАМ СЯЛА"

Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь беражліва захоўвае і ўзбагачае танцавальныя традыцыі беларусаў. Створаны ў 1959 годзе, ён ужо шмат гадоў з'яўляецца вядучым харэаграфічным калектывам нашай краіны. У ягоных праграмах — беларускія традыцыйныя і жанравыя танцы, а таксама танцы народаў, што жывуць на Беларусі.

Таму зусім натуральным выглядае ініцыятыва Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі па правядзенні незаслужана забытага ў апошнія гады фестывалю "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла". Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь падтрымала гэтую ідэю. Адкрыццё фестывалю адбудзецца **8 лістапада** ў гарадскім Палацы культуры г. Ліды. Праводзіцца ён у гонар працаўнікоў прадпрыемстваў, што перапрацоўваюць сельгаспрадукцыю. Таксама пройдзе некалькі канцэртаў у аграфірме "Мажэйкава" для навучэнцаў школ і вучэльняў, для вайскоўцаў. Плануецца семінар для кіраўнікоў харэаграфічных калектываў раёна.

Гэты год для ансамбля быў творчым. Створаны і касцюміраваны два новыя канцэртныя нумары "Паазерскія замалёўкі" і "Тапатуха" (пастаноўка Серыкава, Дудкевіча і Аляшкевіча). На стадыі заканчэння знаходзіцца канцэртны нумар "Паланез" (музыка Агінскага, аранжыроўка Хвашчынскага, пастаноўка Дудкевіча і Аляшкевіча). Ідзе праца над новым цыганскім танцам і рускім лірычным дуэтам "Гарадскі раманс". Створаны новы канцэртны нумар для аркестра ансамбля (аранжыроўка Гінько).

Калектыў выязджаў на гастролі ў Кітай, Галандыю, Бразілію.

У гарадах і вёсках Беларусі праведзена 69 канцэртаў, значная частка якіх адбывалася ў сельскай мясцовасці, прычым 7 — для жыхароў Чарнобыльскай зоны. Былі выступленні ў Мінску, Мазыры, Дзяржынску, Калінкавічах. Бралі ўдзел у канцэрце, прысвечаным Дню Незалежнасці Рэспублікі, у Нясвіжы на свяце кнігадрукавання, у Мастах на свяце "Дажынкі-97". Думаецца, што новы год для ансамбля будзе гэткім жа плённым, як і папярэдні.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

## ТРЫ НЯДЗЕЛІ БАРДАЎСКАЙ ПЕСНІ

Клуб аматараў гітары **9, 16 і 23 лістапада** ў зале ПК "Аўтазаводзец" ладзіць канцэрты "Тры нядзелі гітары". У гэтыя святочныя дні ўсе аматары прыгожага сустрэнуцца з любімымі выканаўцамі і таксама адкрыюць для сябе новыя імёны. Выступяць Вячаслаў Тарлецкі, Сяргей Коган, Сяргей Анцішын, Аляксандр Церахаў, Эліна Чэкан, Ян Скрыган, Эндру Эмерт, Уладзімір Вайтусёнак, Уладзімір Ткачэнка, Павел Маскальчук, Яўген Грыдзюшка, Таццяна Капенкава,



Уладзімір Угольнік і іншыя. Галоўны фундатар канцэртаў — фірма "Дайнова".

**З.В.**

## ПАМЯЦІ ВІКТАРА ЦОЯ

Напэўна, многія памятаюць чорную хвалю, што ўскалыхнула ўсю, тады яшчэ савецкую, моладзь пасля весткі аб смерці Віктара Цоя. Амаль у кожным горадзе з'явіліся так званыя "сценкі Цоя", каля якіх штогод прыхільнікі спевака адзначалі ўгодкі ягонага нараджэння і гібелі. Нават тых, хто быў не вельмі добра знаёмы з творчасцю групы "Кіно", кранала вернасць моладзі свайму куміру.

Яна жыве. Пра гэта сведчыць канцэрт памяці Віктара Цоя, які "Класклуб" наладжвае **14 лістапада а 20-й гадзіне ў рок-клубе "Прамень"** (Няміга, 30). Вядомы пецярбургскі прадзюсер Юрый Бялішкін прадстаўляе на гэтай вечарыне групу "Віктар" з таго ж Санкт-Пецярбурга (назва, зразумела, — у гонар Цоя). Праграму сваю госці назвалі "Дайце мне слова..."

Хто такі для сённяшняй моладзі Віктар Цой? Ці з'яўляецца ўшанаванне памяці Цоя той ідэяй, якая ў наш час здольная аб'яднаць вялікую колькасць юных сэрцаў? Магчыма, на гэтыя пытанні адкажа падзея, якая мае адбыцца.

**Ганна АЛАДАВА**

## ТЭАТР МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ ЗАПРАШАЕ

***Лістападаўская афіша Тэатра музкамедыі, як заўсёды, прадстаўлена разнастайным рэпертуарам. На жаль, прэм'ера, якая чакалася на пачатку гэтага сезона, яшчэ так і не адбылася, але прыхільнікаў тэатра чакае сустрэча з іншымі пастаноўкамі, якія выклікаюць іх нязменную цікавасць. Раскажам пра найбольш значныя з іх.***

**1 і 23 лістапада** гледачы могуць сустрэцца з аперэтай Оскара Штраўса "Капялюш Напалеона". Спектакль быў пастаўлены ў леташнім сезоне галоўным рэжысёрам тэатра Барысам Лагодам. Гэтая аперэта — даволі рэдкая з'ява на музычнай сцэне, і тым, хто яе яшчэ не бачыў, падрыхтавана сустрэча з дабротным класічным матэрыялам і адпаведным узроўнем пастаноўкі.

**12 і 26 лістапада** будзе паказана аперэта Іагана Штраўса "Цыганскі барон". Гэта зусім яшчэ новая пастаноўка, якая выйшла ў канцы мінулага сезона і якую таксама ажыццявіў Барыс Лагода. Гэтыя два спектаклі вельмі блізкія па духу і эстэтыцы, у іх прасочваецца паважлівае стаўленне да аперэтачнай класікі і тэхнікі почырк новага рэжысёра. Прыцягальная пастаноўка яшчэ і тым, што вялікую ролю ў іх адыгрывае балет. Гэта не толькі ўстаўныя нумары, але і ўдзел артыстаў балета ў скразным дзеянні спектакля.

**8 лістапада** ў тэатры адбудзецца вечар аднаактовых балетаў — "Кармэн-сюіта" Ж.Бізэ — Р.Шчадрына і "Іспанскі дывертысмент" на народную музыку. Як вядома, "Кармэн-сюіта" была створана спецыяльна для Маі Плісецкай — яе пастаноўку на сцэне Вялікага тэатра ў 1967 г. ажыццявіў вядомы кубінскі балетмайстар Альберта Алонса, а музычную транскрыпцыю на тэмы Ж.Бізэ стварыў кампазітар Р.Шчадрын. Мінскім гледачам прапануецца менавіта першая, арыгінальная версія Альберта Алонса — перанос яго харэаграфіі на нашу сцэну ў 1995 г. ажыццявіў Гедымінас Таранда, які танцаваў у спектаклі разам з М.Плісецкай.

"Іспанскі дывертысмент" у пастаноўцы галоўнага балетмайстра тэатра Ніны Дзячэнка мае нумарны характар. За аснову пастаноўкі ўзятыя двухактовы балет "Іспанскія мініяцюры", у якім у свой час на сцэне Пермскага тэатра танцавала Ніна Дзячэнка. Гэта была бліскучая харэаграфія Віяна Гомеса Херарда, элементы якой мы бачым у прапанаванай версіі спектакля.

**19 і 30 лістапада** на сцэне Тэатра музкамедыі будзе паказаны і двухактовы балет — "Зачараваны прынц". Гэта своеасаблівая версія балета П.Чайкоўскага "Шчаўкунчык". Перанос вядомай харэаграфіі Васілія Вайнонена таксама ажыццявіла Ніна Дзячэнка.

**14 лістапада** будзе ісці мюзікл беларускага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча "Шклянка вады" ў пастаноўцы Барыса Уторава. Музыка гэтага спектакля проста заварожвае: гэта сучасныя рытмы і аркестроўка, выкарыстанне разам з жывой электроннай музыкі і тэй жа час тонкае спалучэнне стылізацыі і сучаснасці. Спектакль прыцягвае таксама яркай відовішчнасцю і, як у многіх іншых пастаноўках, — балетнымі нумарамі.

**15 лістапада** будзе паказана шоў-праграма народнай артысткі Беларусі Вікторыі Мазур. У першым аддзяленні гледачоў чакае сустрэча з урыўкамі з класічнага рэпертуару, а ў другім — з творамі камернага характару, рамансамі і песнямі.

**16 лістапада** будзе ісці аперэта Ферэнца Легара "Вясёлая ўдава" ў пастаноўцы вядомага маскоўскага рэжысёра Міхаіла Дотлібава. Менавіта ён прывёз з Вены копію аўтарскай партытуры і арыгінальны тэкст лібрэта. У новай пастаноўцы, у адрозненне ад той, што ставілася раней, іншая музычная драматургія, іншыя музычныя акцэнты. Аўтарская партытура адрозніваецца ад папярэдняй і паводле характару аркестроўкі, якую рабіў сам Легар.

**26 лістапада** будзе паказана савецкая аперэта Мікалая Стрэльнікава "Халопка" ў пастаноўцы Вячаслава Цюпы (1994 г.). Гэтая пастаноўка таксама адметная тым, што на сцэна яна ўпершыню ідзе без купюр, так, як яе задумаў аўтар. У ёй адноўлены шэраг музычных нумароў, якія існавалі толькі ў аўтарскім клавіры і адсутнічалі нават у першай ленінградскай пастаноўцы 1929 г., упершыню гучыць і пралог спектакля.

Акрамя вышэйназваных спектакляў, увазе гледачоў прапануюцца класічныя пастаноўкі мінулых гадоў: І.Штраўса — "Жанчына-кажан" **(6 і 28 лістапада)** і "Ноч у Венецыі" **(9 лістапада)**, І.Кальмана — "Прынцэса цырка" і "Марыца" **(13 і 23 лістапада)**, В.Ільіна і В.Лукашова — "Мая жонка — ілгуння" **(21 лістапада)**.

**Зоя ЛЫСЕНКА**














# ЗАЛАТОЕ ПА ЕЛІЗАР'ЕВА

*Шаноўны Валянцін Мікалаевіч!*
*Шчыра віншуем Вас, Вялікага Харэографа і члена рэдкалегіі нашай газеты, з юбілеем!*
*Здароўя Вам і натхнення!*

***"КУЛЬТУРА"ўцы***














*На паласе выкарыстаны фотаздымкі з альбома "Валянцін Елізар'еў" (укладальнік Таццяна Мушынская), якія на днях пабачыў свет у выдавецтве "Беларусь".*

# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

## СПАДЧЫНА АКСАКАЛА



У час сустрэчы ў Міністэрстве культуры Беларусі.



Дуйсен Касеінаў.

31 кастрычніка ў Мінску завяршыліся мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння класіка казахскай літаратуры Мухтара Аўэзава. У рамках святочных дзён у Беларускім Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбыўся "круглы стол", у якім бралі ўдзел госці з Казахстана і пісьменнікі нашай дзяржавы.



Мурат Аўэзаў.

Прайшла таксама сустрэча афіцыйнай дэлегацыі Рэспублікі Казахстан з міністрам культуры Беларусі Аляксандрам Сасноўскім. На ёй адзначалася неабходнасць развіцця двухбаковых творчых кантактаў паміж майстрамі мастацтва нашай краіны і Казахстана; абмяркоўваліся надзённыя праблемы ў галіне культуры, якія ўласцівыя абедзвюм дзяржавам у час станаўлення незалежнасці і новых эканамічных стасункаў. Аляксандр Сасноўскі гаварыў пра каштоўны ўнёсак у сусветную культурную скарбніцу Мухтара Аўэзава. Сын яго Мурат Мухтаравіч Аўэзаў — пісьменнік і вучоны-ўсходазнаўца, які прысутнічаў на сустрэчы, выказаў словы падзякі за памяць пра бацьку.

Аляксандр Сасноўскі і дырэктар Дэпартамента культуры Міністэрства адукацыі, культуры і аховы здароўя Дуйсен Касеінаў абмяняліся памятнымі падарункамі. На сустрэчы прысутнічаў таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Юрый Клачкоў.

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт з удзелам майстроў мастацтва Казахстана.

**Наш кар.**
**Фота Андрэя СПРЫНЧАНА**

## "РАЙ"СКІ ПАДАРУНАК



Да 75-годдзя Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі інфармацыйна-культурны цэнтр "РАЙ" (дырэктар Іван Зайцаў) падрыхтаваў цудоўны падарунак — ілюстраваны рэкламны альбом "Нацыянальная бібліятэка Беларусі" і камплект выдатных паштовак "Шэдэўры беларускай архітэктуры ў малюнках Напалеона Орды" (са збору літаграфій бібліятэкі).

У прадмове да альбома дырэктар бібліятэкі Галіна Алейнік высока ацэньвае ролю "захавальніцы спадчыны беларускага народа", "другога універсітэта для вядомых навукоўцаў, дзяржаўных дзеячаў, некалькіх пакаленняў творчай інтэлігенцыі". Выдадзены на беларускай і англійскай мовах альбом утрымлівае ў сабе гісторыю складанага шляху, які бібліятэка прайшла за 75 гадоў; тут апавядаецца пра тое, якім чынам фармаваліся яе найбагацейшыя фонды; пра бясцэнныя нацыянальныя і замежныя дакументы XVI — XX стагоддзяў; пра фонды самых розных накірункаў і г.д.

Цудоўнае ўражанне робіць якасць фотаілюстрацый і дызайн альбома.

Камплект паштовак "Шэдэўры беларускай архітэктуры ў малюнках Напалеона Орды", выдадзены згодна з замовай Міністэрства культуры РБ з тэкстам Л.Трэпет (на беларускай і англійскай мовах), таксама робіць уражанне высокай мастацка-паліграфічнай культуры і прафесіяналізму выдаўцоў.




Н.Орда як непераўзыдзены майстар архітэктурнага пейзажа прадстаўлены вобразамі беларускіх гарадоў і вёсак, палацаў і храмаў, старажытных замкаў і мемарыяльных маёнткаў. Многія з іх не захаваліся, але дзякуючы віртуознаму таленту мастака мы сёння можам з трапяткою душой вярнуцца ў тыя далёкія часы, на Беларусь XIX стагоддзя, на "востраў скарбаў" нашай вялікай духоўнай культуры...

**Наш кар.**



Н.Орда. Бялынічы. Касцёл кармелітаў.

## "ЗАЎТРА" АЙЧЫННАЙ ЭСТРАДЫ: "ХАЧУ" І "МАГУ"

...Зграбныя, даўганогія целы, аголеныя плечы, прывабна-эратычная пластыка, паварот бокам, спінай, рукай — вось так, і — мінор, мінор, мінор... Урыўкі з трагічных гісторый, што несліся са сцэны, іншы раз перарываліся пагрозамі і патрабаваннямі, на тварах — сляды састарэлых пакутаў і невылечнага суму... Такім чынам адбываўся прагляд артыстаў, вылучаных у працэсе конкурсу ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады.

А цяпер пачнём інакш. Ва ўсіх, хто прысутнічаў у зале Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады на праглядзе артыстаў, якія вытрымалі адборачны конкурс, настрой быў прыўзняты. На сцэну выходзілі дзяўчаты (пераважна) і юнакі, якія свежымі, моцнымі галасамі ўсцешвалі слых, а прыемнай (ва ўсіх сэнсах) знешнасцю — погляд. "Якая змена расце, якое цудоўнае "заўтра" ў нашай эстрады", — думалася. Дык якое ж яно?

Усцешвае перадусім тое, што яно ў нас ёсць — сам факт наяўнасці маладзёжнага тэатра эстрады — гарантыя гэтага. Колькі сталага веку артыстаў уздыхаюць з гэтай нагоды: у іх такіх магчымасцяў не было, прабіваліся, хто як мог. Аднак пачынаць такую справу ніколі не позна, тым больш, што столькі "незапатрабаваных" талентаў расце побач. Для мяне заўсёды было загадкай, чаму пры наяўнасці багатага вакальнага патэнцыялу маладая беларуская эстрада наогул (выключэнні ёсць заўсёды) стварае адчуванне такой аднастайнасці і бясколернасці. Мяркую, адказ ляжыць на паверхні: з кожным артыстам неабходна выпрацоўваць індывідуальны вакальны стыль і сцэнічны вобраз. Усё гэта, у сваю чаргу, павінна сфармаваць рэпертуар, для кожнага — свой. Тут без погляду з боку і кіраўніцтва вопытных майстроў ніяк не абысціся. "Выкінутыя ў свет" артысты, якіх мы ўбачылі падчас вышэйпамянёнага прагляду, такія, якімі яны з'яўляюцца цяпер, пры ўсёй гучнасці іхніх галасоў, згубяцца сярод безлічы змагароў за славу і — не запомняцца слухачам.













Але калі дзяўчынкі, вылучаныя кіраўніцтвам тэатра, гэта, у асноўным, "паўфабрыкат", дык нешматлікія юнакі пакінулі больш сур'ёзнае ўражанне. Скажам, Андрэй Дзебыш, які выканаў песню "Сэра" з рэпертуару Валерыя Меладзэ, што само па сабе ўжо адказна, прадэманстраваў добры голас, уменне валодаць ім і арганічна адчуваць сябе на сцэне. А Анатоль Олех — гэта проста знаходка, што і было падкрэслена падчас канцэрта. Студэнт кансерваторыі, якога літаральна "вырвалі" з тэатра аперэты, узяў у рукі мікрафон (як сцвярджаюць, упершыню) і запоўніў залу цудоўным, моцным барытонам, распяваючы знакамітую "Гісторыю кахання" Ф.Лея. Раней на эстрадзе спявалі менавіта такімі, добра пастаўленымі галасамі, імёны ўладальнікаў якіх захоўваюць у памяці многія пакаленні. Чаму б і нам не працягнуць гэтую традыцыю?

Дарэчы, пра традыцыі. Ёсць падставы спадзявацца, што напаўзабыты ўжо жанр музычнай пароды зноў вернецца на нашу сцэну: вельмі ўжо забаўна "агучвала" індыйскае кіно Людміла Юрчанка. Узгадаў сваё рамаство вядучы канцэрта — вядомы беларускі парадыст Сяргей Кравец. Былі выступоўцы і ў размоўным жанры, але... Усё-такі, у працы са словам, акрамя артыстызму, асабліва важна прытрымлівацца правілаў прыстойнасці. Мяжа вельмі непрыкметная, яе так лёгка пераступіць: толькі што было смешна, а вось ужо — пошласць...

Але на канцэрце былі і ўзвышаныя моманты. І адзін з іх звязаны з музычным кіраўніком тэатра Васілём Раінчыкам, якога мы, нарэшце, зноў пабачылі ў якасці кампазітара, піяніста і "шукальніка" талентаў. Пасля кароткай вітальнай прамовы ён сеў за раяль, каб акампаніраваць 17-гадовай Вікторыі Алешка, якая цудоўна выканала ягоную новую песню — сур'ёзную, відавочна не аднадзёнку. "Как над обрывом, на краю... пою..." — неслася са сцэны, і ўзгадваўся дуэт Райманда Паўлса і Алы Пугачовай, які спарадзіў легендарнага "Маэстра". Чаму б не? Удалы тандэм кампазітара і выканаўцы заўсёды — крыніца яскравых і запамінальных песень, а нам гэтага яўна нестае.

Выходзілі на сцэну і мастацкі кіраўнік тэатра Алег Цівуноў, і кіраўнік майстар-класа Эдуард Ханок, прэзентуючы сваіх "пратэжэ". А Васіль Раінчык аб'явіў, што конкурс у маладзёжны тэатр будзе пастаянным, ахвотныя заўсёды змогуць тут паспрабаваць і трапіць на вакантнае месца замест таго, хто не апраўдаў спадзяванняў. Што ж, без здаровага суперніцтва якасці не дасягнеш.

Але галоўная наша надзея — на тое, што ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады з маладымі артыстамі будуць працаваць. Камусьці неабходна пашырыць музычны кругагляд, камусьці — дадаць таго, што завецца "культурай спеваў", кагосьці, магчыма, — трэба апрануць і практычна ўсім — вярнуць узрост. Не бывае артыста без узросту! І 15 — 17-гадовыя стварэнні, якія сцвярджаюць: "Я — женщина по имени "Хочу", альбо патрабуюць віна, маючы на мэце "манить к себе чужих мужчин", ствараюць не зусім прыстойнае ўражанне. А яны ж растуць, і калі іх своечасова не стрымаць, дык пра што ж яны будуць спяваць праз дзесяць гадоў?

**Ганна АЛАДАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

MULTUM IN PARVO

# ВЕЧНЫ ВЫГНАННІК АНАТОЛЬ ЗВЕРАЎ

## (Якім я яго запомніў)

(Заканчэнне. Пачатак у № 42)

Другая — і апошняя — сустрэча адбылася выпадкова: хаця ў гэтай выпадковасці сёння я бачу заканамернасць. Так павінна было быць...

Масква... Напрыканцы лістапада 1978 года мы разам з кішынёўскім мастацтвазнаўцай Дзмітрыем Гольцавым зазірнулі ў піўны бар "Валдай". І там раптам убачылі за сталом Анатоля Зверава. Ён сядзеў у самоце і павольна папіваў піва і закусваў крэветкамі.

Убачыўшы нас, узрадаваўся, шумна ўзняўся і запрасіў за свой стол. Гарсон прынёс яшчэ некалькі куфляў піва, і мы пачалі размову. "А ведаеш, — сказаў ён, — Воську Рабіна ўлетку пазбавілі нашага грамадзянства..." Пра гэта мы ведалі. "А яшчэ, ведаеш, органы завялі справу супраць Сыса". (Сысоева я трошкі ведаў як мастака-наватара і добрага карыкатурыста.) "За што?" — здзівіўся я. "За якуюсьці парнаграфію, здаецца. Кажуць, ужо быў вобыск... Зусім нядаўна...". "Вось што, Цімафеевіч, калі ты не супраць, давай адсюль зматаемся... Мяне чакае блізкі сябар, і ў яго дома за келіхам-другім пасядзім, пагутарым па-чалавечы. Згодны?"

Звераў не адмаўляўся, ды і грошы ў яго ўжо заканчваліся. Утраіх мы заехалі ў Армянскі завулак, 2, у тагачасны Інстытут усходазнаўства, дзе працаваў мой Дзіма Ляцягін (ён быў в'етнамістам). Адсюль — ужо ўчатырох: Анатоль, два Дзмітрыя і я — паселі ў метро. І паехалі ў Шчолкава, потым — аўтобусам — да Гальянава, дзе жыў Ляцягін. Натуральна, у дарозе набылі правіянт...

Ад той шумнай і доўгай вечарыны, што перайшла ў ноч, засталіся невыразныя ўспаміны, урыўкі звераўскіх маналогаў, фрагменты дыскусій пра шляхі развіцця савецкага мастацтва; і ўсе гэтыя гутаркі і спрэчкі ішлі на фоне напаўзабароненых песень Высоцкага, Акуджавы і Галіча, што былі запісаныя на бабіны... Памятаю такі маналог Зверава: "Старых мастакоў не бывае. Бывае стары, зношаны, пенсійны жывапіс. Ты згодны? Можаш не адказваць. А ведаю, што ты згодны... Чаму сумуе мастак? Таму, што людзі кепска жывуць. Калі людзі не ўсміхаюцца, не разумеюць, у чым іхняе прызначэнне, — значыць, і мастаку кепска. А яшчэ ён сумуе таму, што цела старэе раней за дух...".

Сёння Звераў афіцыйна прылічаны да шэрагу авангардыстаў, але, мяркую, гэта не зусім дакладна. Так, тагачасных маскоўскіх авангардыстаў ён ведаў, іншы раз выстаўляў свае творы разам з імі на паўзакрытых, скандальных выставах у клубе "Дружба", якія наладжваў А.Глезер, у Доме культуры ВДНГ СССР разам з Аляксандрам Харытонавым, Уладзімірам Якаўлевым і прымітывістамі, у скляпенні камітэта мастакоў-графікаў на Малой Грузінскай разам з Барысам Жутоўскім, Дзмітрыем Краснапеўцавым, Іллёй Кабаковым...

Але Звераў быў усё ж такі далёкі ад эстэтыкі "белага куба" і мовы геаметрычных пабудоў, ад скрыняў і стэндаў Кабакова, "прыладаў" Герловіных, аб'ёмных панарам Чуйкова, "арт-эфектаў" Генфантэ, бляшанак Турэцкага і Прыгава, аб'ектаў Сокава і Лебедзева, Камара і Меламіда.

Ён быў далёкі ад сацыяльнай заклапочанасці, ад жангліравання эмблематыкай, сімволікай і геральдыкай палітычнага тлуму, ад ілюстрацыі ўстойлівых прынцыпаў выяўленчага мыслення і штампаў, якія пастаянна мільгацелі ў прасторы тагачаснай культуры. Карацей, у Зверава-індывідуаліста была свая візітоўка альтэрнатыўнага перыяду савецкага мастацтва.

Калі б ён жыў у Парыжы, да прыкладу, у 20-я гады, дык ягонае месца было б на Манпарнасе, дзе скончыў свае дні вялікі Мадыльяні...

Так, ён так і не ўвайшоў у прастору мастацкага жыцця. Ён быў унутраным эмігрантам і ў адрозненне ад сваіх маскоўскіх калег не імкнуўся прабіцца


А.Звераў. "Жаночы партрэт". 1966.

да шырокай публікі, не адваёўваў легальны плацдарм для дэманстрацыі свайго "неафіцыйнага" мастацтва.

І хаця на Захадзе яго ведалі яшчэ пры жыцці, на радзіме ж — поўная невядомасць і пагарда з боку Саюза мастакоў. І хаця цэны на ягоныя карціны "там" былі неверагодна высокімі, "тут" ён быў жабраком, нібыта царкоўны пацук. Цяпер пра яго ўжо штосьці напісана. Гады чатыры таму ў выдавецтве "P.S." выйшаў альбом пра ягоную творчасць, а калекцыянеры лічаць за гонар атрымаць для сваіх збораў хаця б накід Зверава. Ягонае імя — у адным шэрагу з найбуйнейшымі мастакамі XX стагоддзя.

Але гэта ўсё было потым. Пасля ягонай смерці... У гэтым сэнсе Звераў паўтарыў лёс Паўла Філонава, Казіміра Малевіча, Веліміра Хлебнікава, Ніко Пірасманашвілі...

Як і яны, у сваёй творчасці і паводле ладу жыцця Звераў нібыта ўзвышаўся над усім нашым тлумам, нетрывалымі каштоўнасцямі, надзьмутасцю, жорсткасцю, маной. Адтуль, з вышыні, ён глядзеў на нас мудрым, спачувальным позіркам, асвятляючы людзям сваёй творчасцю шлях у свет дабрыні і высакароднасці...

Афіцыйных замоваў у яго ніколі не было. Для яго жывапіс — толькі крыніца задавальнення патрэбы ствараць. Як мастак ён развіваўся самастойна, без ціску з боку настаўнікаў і школы. Прадастаўлены самому сабе, нікому не падпарадкаваны, ён мог колькі заўгодна эксперыментаваць, шукаць свой стыль, сваю пластыку, сваю "лінію".

Прызнаваў толькі Леанарда да Вінчы, у якім, паводле словаў мастака, ён "знайшоў свайго, бадай, адзінага сябра, і тады я зразумеў, што не самотны пры ўсёй сваёй адзіноце ў жывапісе. Сімвалічна Леанарда быў са мною заўсёды". І Звераў строга прытрымліваўся парады вялікага італьянца "вучыцца ў натуры": "Бясконцае маляванне на натуры прывяло мяне да адкрыцця новых спосабаў яе выказвання".

Мастак тлумачыць, што гэтыя спосабы выказвання ён знайшоў з дапамогай плямаў, "якія раскіданыя, безумоўна, не хаатычна, чым іншы раз задавальняюцца сучасныя жывапісцы і што, дарэчы, іншы раз апраўдана, а наадварот — плямаў, вельмі сабраных і асэнсаваных, скіраваных у патрэбнае рэчышча палатна". І тут жа дадае: "Мне здаецца, што кожны мой рух у жывапісе, акрамя болю і страт, нічога мне не прыносіць". Амаль, як Ван Гог...


А.Звераў. "Конь". 1986.

Звераў валодаў унікальнай здольнасцю бачыць і перадаваць хараство будзённасці, знешне непрыкметных рэчаў навакольнага свету. Ягонае мастацтва нібыта прасвятляе зрок людзей, здымаючы з іхніх вачэй нейкую плёнку. У той жа час ён ніколі нікога не павучаў, не навязваў свае меркаванні. Я ў яго папытаўся: "Што ты, Анатоль Цімафеевіч, хочаш адлюстраваць у сваім жывапісе?" А ён быў літаральна збянтэжаны: "А хіба трэба штосьці адлюстроўваць?"

Наогул, яго стамлялі ўсе каноны, рэгламенты і традыцыі ў мастацтве і ў жыцці. Ён быў мастаком экспромта. Любіў жывапіс за тое, што ў гэтым свеце фантазіі — свеце жывапісу — ён быў свабодны ў сваёй творчасці, бо тут было ўсё дазволена і не існавала ніякіх межаў ды бар'ераў. Уся творчасць Зверава — суцэльная імправізацыя. Ён спачатку нібыта акрэсліваў галоўнае — ідэю, думку палатна. А потым пачынаўся спантанны, інтуітыўны працэс. Усё аддавалася пад уладу чулай рукі, якая кіравалася толькі памкненнем, невядомай стыхіяй.


А.Звераў. Аўтапартрэт. 1957.

Нават у выкарыстанні мастацкіх матэрыялаў і "сродкаў вытворчасці" Звераў быў своеасаблівым. Ён адкрыў шлях у жывапіс самым нечаканым матэрыялам і прыладам, такім, як мяцёлка, венік, шчотка, шпатэль, лязо бяспечнай брытвы, ногі, уласны палец і нават ступня. Ён выкарыстоўваў таксама тытунь, недапалак, попел, сокі кветак, варэнне, рэшткі кавы, па сметніцах збіраў драўніну і рабіў з яе падрамнікі.

Прыроду ён любіў незвычайна, "па-звераўску". Сярод кветак, дрэваў, кустоўя, сярод жывёл, птушак і жукоў пачуваўся роўным сярод роўных, з'яўляючыся нібыта іхняй арганічнай часткай. Кожную казюрку надзяляў чалавечымі правамі.

На "ягонай" дачнай дзялянцы ў Вострыкаве, куды ён прыязджаў улетку, жылі вожыкі, рапухі, змеі, краты, смаўжы, мурашкі і іншыя істоты. І ўсёй гэтай кампаніяй Звераў кіраваў сур'ёзна, а з жукамі размаўляў як сябар. І маляваў іх несупынна.


А.Звераў. "Лангуста і піва". 1983.

А ў гэты час ягонае імя ўжо "гучала" ў Еўропе і ЗША: лепшыя галерэі Парыжа, Лондана, Берліна, Нью-Ёрка прадастаўлялі ягоным творам прэстыжныя залы, хаця самому мастаку так ніколі і не давялося пабываць за мяжой.

Нашмат пазней я даведаўся, што першымі, хто звярнуў на яго ўвагу, былі вядомы калекцыянер Г.Кастакі, артыст А.Румнёў, адзін музыкант, здаецца, Маркевіч, і прафесар М.Фоціеў. Менавіта дзякуючы ім і насуперак айчынным "знаўцам" канфармісцкага мастацтва, Звераў "пераскочыў" межы радзімы і трапіў у шэраг буйных мастакоў сучаснасці.

Адзінаццаць гадоў мінула з таго дня, калі 55-гадовы мастак пайшоў ад нас, так і не прачытаўшы пра сябе ў сродках масавай інфармацыі ніводнага добрага слоўца.

... Праз некалькі гадоў пасля той, другой нашай сустрэчы са Зверавым я напісаў пра яго невялікі артыкул для часопіса "Творчество". Тагачасны галоўны рэдактар Юрый Нехарошаў паабяцаў яго апублікаваць, але матэрыял так і не быў надрукаваны. Пазней, ужо новы рэдактар Аляксандр Рожын спаслаўся на тое, што з прычыны пастаяннай адсутнасці мастака ў Маскве было немагчыма зрабіць фотаздымку ягоных твораў. Але нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі кінуў: "Так, Звераў, кажуць, зноў "на прыкмеце" ў медыцынскіх установаў... Трэба шукаць яго дзе-небудзь у "псіхушцы"...". Магчыма, яно і так. Але ніхто і ніколі яго не шукаў, акрамя... калекцыянераў.

Вось нядаўна ў сваім архіве я знайшоў той самы неапублікаваны трохстаронкавы артыкул. Яшчэ раз узгадаў гэтага чалавека з неспакойным лёсам, адвечнага "анталагічнага падарожніка", несупыннага шукальніка Ісціны.

Кажуць, што незадоўга да сваёй смерці Звераў на аркушыку паперы напісаў: "Мастацтва павінна быць вольным". Не ведаю, дзе пахаваны Анатоль Цімафеевіч, але на ягоным надмагіллі, калі яно існуе, я б высек менавіта гэтыя словы...

**Барыс КРЭПАК**

# "МАКДОНАЛЬД-ызацыя" ЎСЯГО СВЕТУ ці ЛУЧНАСЦЬ КУЛЬТУР?



***"Усё для фітнеса і бодыбілдынга!", "Хіты, але без папсы і постэраў", "Офшорный рай для шоу-бизнеса", "WWW и сидером против масс-медиа", "Эй, ди-джей!", "Аутсайдеры из андеграунда", "бутык для тынэйджараў"...***

**На якой мове гэтыя рэкламныя надпісы і загалоўкі? Граматыку, прыназоўнікі пазнаць можна, але нават літары — гэтыя WWW як знак інтэрнета, — не кажучы пра карані і словы, — нічые, вандроўныя па ўсім свеце.**

**Што гэта: — моўная хвароба, для якой не існуе дзяржаўнай мяжы, як для грыпу ўвосень, ці сотні маленькіх масткоў, якія збліжаюць народы і краіны. Як ставіцца да гэтых стракатых лексічных чужынцаў?**

## СПАКОЙНА, БО ГЭТА НЕ НАВІНА І НЕ ПАГРОЗА

9 — 11 кастрычніка ў Браціславе, сталіцы ўжо некалькі гадоў суверэннай Славакіі, у нацыянальным Інстытуце мовазнаўства Славацкай Акадэміі навук праходзіў міжнародны сімпозіум "Інтэрнацыяналізацыя славянскіх літаратурных моў: за і супраць". Навукоўцы канстатавалі, што плынь запазычаных слоў, дзякуючы сродкам масавай інфармацыі і рэкламнага бізнесу, як ніколі раней шырокая і не мае ўпыну. Разам з тым запазычанні і інтэрнацыяналізацыя слоўніка і нават збліжэнне графічных сістэм — гэта не навіна. Прыняццё рознымі мовамі Еўропы агульных запазычанняў пачалося дзве тысячы гадоў таму — спачатку з грэчаскай і з лацінскай моў, а потым і з іншых, "маладых", моў былых "варвараў".

Інтэрнацыяналізацыя тычыцца, зразумела, перыферыйных, павярхоўных і позніх пластоў слоўніка. Лексіка штодзённага жыцця, традыцыйнай культуры і рэлігіі захоўваюць сваю самабытнасць і адасобленасць. Іншая справа — мова сучасных тэхналогій і прыродазнаўчых навук: тут тэндэнцыі да глабальнай уніфікацыі праяўляюцца ўсё мацней, а авангард гэтай мовы, яе найбольш інфармацыйна ёмістая і адказная частка — лічбы, матэматычная сімволіка, хімічныя формулы, медыцынскія і фармакалагічныя тэрміны — ужо амаль што адзіныя для чалавецтва. Прычым для лічбаў гэтае аб'яднанне адбылося даволі даўно: так званыя арабскія лічбы (*так званыя*, бо на самой справе іх вынайшлі ў Індыі) атрымалі агульнаеўрапейскае распаўсюджванне ўжо да XVI — XVII стагоддзяў, выцесніўшы такія мясцовыя сістэмы запісаў колькасцей, як рымскія лічбы ці літары алфавітаў (якія мелі ўмоўленае лічбавае значэнне).

Большасць лексічных інтэрнацыяналізмаў — гэта тэрміны навукі і "новай" — гарадской і кніжнай — культуры, пры гэтым многія з іх настолькі ўкараніліся ў нацыянальныя мовы, што іх запазычанасць амаль не адчуваецца. Ну што гэта за чужынцы: *школа, тэатр, камедыя, іронія, сатыра, дырэктар, матор, паліто, гумар, кіно, спорт* і многія сотні і тысячы іншых, у тым ліку само слова *культура*, лацінскае па паходжанні? Культурная гісторыя еўрапейскай супольнасці пераконвае: інтэрнацыянальныя словы дапамагалі культурнаму ўзаемапаразуменню народаў, стваралі блізкасць суседзей па цывілізацыі.

Разам з тым інтэрнацыянальныя словы ніколі не пагражалі найбольш глыбокім пластам слоўніка — моўным караням, "душы і сэрцу мовы", якія былі і будуць заўсёды свае, народныя і спрадвечныя. Культурныя лексічныя запазычанні — гэта не больш, чым "прыбудоўкі" да спадчыннай хаты роднай мовы, а не замены свайго на чужое. Лёсы розных моў сведчаць, што мноства запазычаных слоў у мове не замінала яе суверэннасці і аўтарытэту ў вачах суседзяў. Насупраць, насычанасць новымі і моднымі словамі — з тых, што на вуснах "усёй Еўропы" ці "ўсяго свету", — нярэдка спрыяла міжнароднаму прэстыжу такой чуйнай да новага мовы, рабіла яе больш прыцягальнай і лёгкай для засваення. Не раз выказвалася меркаванне, што, магчыма, высокая насычанасць англійскай лексікі міжнароднымі словамі — адна з прычын даступнасці і таму папулярнасці англійскай мовы ў свеце. А па падліках лінгвістаў, у англійскай мове каля 40 працэнтаў так званай культурнай лексікі — гэта словы раманскіх (лацінскіх і французскіх) каранёў. Са славянскіх моў больш за ўсё інтэрнацыяналізмаў у польскай і рускай мовах.

## ДРОБНАЯ РАБІЗНА МОДЫ

Распаўсюджанне інтэрнацыянальных слоў закранае розныя па глыбіні і значнасці лексічныя ўзроўні. Адна справа — ключавыя словы сучаснай цывілізацыі, вядомыя ўсяму свету ўжо шмат стагоддзяў (*медыцына* і *музыка*, *універсітэт* і *парламент*, *папера* і *машына* ды іншыя), і зусім іншая рэч — безліч слоў-аднадзёнак, што прыходзяць і адыходзяць разам з модай — разам з фасонамі, тканінамі, прычоскамі, стравамі, рэчамі, відовішчамі, заняткамі, якія без упыну прапагандуе рэклама сёння, каб з яшчэ большай агрэсіўнасцю навязваць пакупнікам абноўленыя варыянты тавараў — і абавязкова з новымі назвамі! — заўтра.

Большасць з той запазычанай лексікі, што раздражняе, а часам і злуе людзей, асабліва старэйшага пакалення, якраз і складаецца з іншамоўных назваў для чужых, часта непатрэбных, ці незразумелых, ці недаступных рэчаў і тавараў. *Блэйзер* і *блузон*, *унісекс* і *стэб*, *топлес-шоу* і *шоп-туры*, *фэн-клубы* і гэтак далей — усё гэта яе рознакаляровыя наклейкі, абвёрткі, бутэлькі, каробкі, упакоўкі. Ці варта турбавацца, калі не ведаеш, што такое *блэйзер*? — Не варта, як не абавязкова і нават смешна даросламу ганяцца за модай тынэйджараў і апранаць які-небудзь *блузон* ці *джут*. Але і сустракаць у штыкі чарговы *блэйзер* тым больш не варта.

Вось рэкламуюць *фітнес* і *бодыбілдынг*. Што гэта? — Ды прыкладна тое ж, што пару гадоў таму звалася *шэйпінг* і *культурызм*, а *шэйпінг* — блізка да таго, што яшчэ раней звалося *аэробіка*... Дзе зараз тая *аэробіка*? Ды прыкладна там жа, дзе праз пару гадоў будзе *фітнес*. Мова сама пазбаўляецца ад славеснага смецця.

На згаданым сімпозіуме славістаў у Браціславе прыводзіліся факты з гісторыі розных моў, якія сведчаць: мноства запазычанняў — часовыя. Так, у рускай мове ў часы Пятра I было шмат запазычанняў, якія з цягам часу саступілі месца сваім славянскім адпаведнікам: замест *сатисфакция* стала *удовлетворение*, замест *орация — приветственная речь* і г.д. Былі нават такія часовыя запазычанні, побач з якімі існавалі свае спрадвечныя словы: *фортеция* і побач *крепость*, *виктория* і разам *победа*. Запазычанні потым адышлі, прычым самі сабой, без загадаў і чыіх-небудзь намаганняў. Мова сама ўсталёўвае баланс паміж сваім і чужым.

## ЯК НАЗВАЦЬ КАМП'ЮТЭР І ЦІ ВАРТА СПРАЧАЦЦА АБ СЛОВАХ?

У гісторыі розных моў бывалі вельмі гарачыя дыскусіі, сапраўдныя газетна-часопісныя баталіі паміж праціўнікамі запазычанняў (пурыстамі) і тымі, хто бачыў у іншамоўных словах толькі зручнасць і выгоды. У нашым стагоддзі спрэчкі аб запазычаннях гучаць больш спакойна, асабліва ў дачыненні да інтэрнацыяналізмаў, але калі гаворка ідзе аб запазычаных словах з суседніх моў, дык і зараз паленіка бывае вострай.

У адрозненне ад простых запазычанняў у інтэрнацыяналізмаў ёсць дадатковы плюс (акрамя лексічнай лучнасці): інтэрнацыянальнае слова запазычваецца не ў адну,а ў некалькі моў. Спакайней за ўсё людзі глядзяць на экспансію грэка-лацінскага кораслова, якая доўжыцца трэцяе тысячагоддзе: гэта як бы і не запазычанні, а законная частка агульнай культурна-моўнай спадчыны. Але і "дары атлантызму", інакш кажучы інтэрнацыяналізмы з жывых моў (усе гэтыя *лобі,хобі,рэкордэры* ці *пасцішы* і *буцікі*), для пурыста прыняць лягчэй, чым "пазычаць" у "суседа" ці "ганарлівага сваяка". Для беларусаў інтэрнацыяналізм — гэта знакі выхаду з ценю рускага або польскага ўплыву, адыход ад спрадвечнай беларускай дылемы: чый цень цяплейшы — рускі ці польскі? Інтэрнацыяналізмы далучаюць беларусаў да таго шырокага свету, дзе Расія і Польшча — самі толькі часткі глабальнай мазаікі.

Запазычанні — традыцыйная праблема для культуры мовы. Лічу, што ў любым выпадку, незалежна ад лёсу канкрэтна запазычанага слова, гэта вельмі карысныя дыскусіі. Напрыклад, у Балгарыі не так даўно ў газетах абмяркоўвалі пытанне, як назваць камп'ютэр? Задаволіцца амерыканізмам *компутор*, ці, па прыкладу чэхаў, славакаў, сербаў, харватаў, славенцаў, скалькаваць назоўнік, што ўтвораны ад англ. *compute* — "лічыць, падлічваць", і атрымаць уласны, "хатні" тэрмін (накшталт славенск. *računalnik* або чэшск. *počitač*). У балгарскай мове замацаваўся інтэрнацыянальны тэрмін, і хутчэй за ўсё, гэты вынік не залежаў ад газетных дыскусій, але ўвага грамадскасці да мовы мае сама па сабе карысць і каштоўнасць. Хаця б таму, што мноства чытачоў даведаліся пра матываванасць гэтага запазычанага тэрміна, пра яго сувязь са значэннем "лічыць". Некаторыя чытачы будуць і надалей угледацца ў новыя словы, каб высветліць іх першапачатковы сэнс і сувязі з іншымі словамі. Кажучы больш шырока, у такіх дыскусіях каштоўны не "прысуд", не "канчатковае рашэнне", а сам "працэс" — гэта значыць, сама ўвага людзей да слоў і мовы. Бо чым большая гэта ўвага, тым лепш людзі валодаюць роднай мовай і тым лепш разумеюць адзін аднаго.

Вопыт развіцця нацыянальных тэрміналогій даказвае, што небяспека інтэрнацыяналізацыі — прыдуманая, уяўная, а карысць — рэальная. Адмова ад новых тэрмінаў-інтэрнацыяналізмаў абарочваецца ізаляванасцю нацыянальнай навукі і яе збядненнем. Масавыя замены інтэрнацыянальных тэрмінаў хатнімі неалагізмамі прыводзілі да блытаніны і ўскладнялі ўнутрымоўную тэрміналагічную працу. Так здарылася, напрыклад, з харвацкай камп'ютэрнай тэрміналогіяй: большасць тэрмінаў калькіравалі з англійскіх, але, каб іх разумець, даводзіцца побач з харвацкім тэрмінам у дужках даваць яго англійскі прататып. З улікам таго, што большасць камп'ютэршчыкаў усё роўна так ці інакш мае справу з англійскай спецыяльнай літаратурай, невядома, ці аблегчылі ім жыццё тыя пераклады.

Аднак галоўны пройгрыш ад боязі інтэрнацыяналізмаў у тым, што з пурыстаў смяюцца.

## БУДЗЕМ УЛІЧВАЦЬ ЛЮДСКУЮ ПСІХАЛОГІЮ

У спрэчках аб запазычаннях культурны і сталы філолаг, ці, шырэй, гуманітарый, пачувае сябе перш за ўсё абаронцам культуры, спадчыны, традыцыі. Таму папярэднія словы наконт таго, што мова сама сябе абароніць і збалансуе, і ачысціць, такому чытачу могуць падацца занадта пасіўнымі і нават абыякавымі. У адказ я скажу наступнае.

Па-першае, паўтару я, "круглы стол" па моўных пытаннях на тэлебачанні або газетная дыскусія па культуры мовы самі па сабе значна больш каштоўныя і выніковыя, чым прысуды "за" ці "супраць" па любым канкрэтным запазычаным слове. Для філолага, наогул для гуманітарыя важна абуджаць моўную свядомасць людзей. Гэта значыць, выклікаць чытачоў, вучняў, слухачоў на дыскусіі і спрэчкі пра мову, каб выхоўваць зацікаўленасць і чуйнасць да слова. Палеміка пра запазычанні, лёс інтэрнацыяналізмаў, пра будучыню таго ці іншага амерыканізма, — гэта перш за ўсё зручны выпадак, каб зацікавіць слухачоў лёсам моў і гісторыяй культуры, як яна адлюстравалася ў гісторыі слоў і выразаў.

Па-другое. Мы павінны берагчы гуманітарныя традыцыі, быць іх ахоўнікамі, але берагчы і ахоўваць так, каб прыцягнуць да гуманітарнай культуры моладзь. Шкада, калі прафесія філолаг стала б сінонімам прафесійнага кансерватара. Шкада, калі выступленні славесніка заўсёды былі б прадказальныя ў такім прыкладна напрамку: раз выступоўца — філолаг, дык ён абавязкова супраць усялякага мадэрну і авангардызму. Ці: раз філолаг, значыць ён, канешне, за старажытнасць, за дыялектызмы, а ў літаратурных дыскусіях выбірае фальклор і літаратурную класіку.

Зразумела, фальклор, гэтая першая вобразная крыніца нашага дзяцінства, даражэй (у прыватнасці, мне, напрыклад), чым якія-небудзь літаратурныя практыкаванні, дзе недахоп таленту камуфлююць чыста галаўной фантазіяй і назвай "канцэптуалізм". Але я думаю, што адрадзіць цікавасць да фальклору здолеюць хутчэй модныя эсеісты ад семіётыкі і псіхааналізу, чым фалькларысты-кансерватары, закаханыя ў фальклор сам па сабе, без прывабных адзежын сучасных інтэрпрэтацый і модных дыскусій. Пры ўсёй сваёй спрэчнасці, а падчас і безгустоўнасці, такія адзежыны і дыскусіі — гэта і ёсць прывязка адыходзячай культуры да сучаснага жыцця.

У дыскусіях аб запазычаннях філолагам варта ўлічваць псіхалогію. Улічваць, што для моладзі, для людзей найбольш мабільных і адкрытых, з моцнымі пазнавальнымі ўстаноўкамі, з цягай і густам да новага і эксперыментальнага, — для такіх людзей свежае лексічнае запазычанне заўсёды будзе сродкам станоўчага сацыяльнага сімвалізму: як модная дэталь у касцюме, як сведчанне доступу да модных крыніц моднай інфармацыі, наогул — як знак асабістай смеласці і далучанасці да шырокага і прывабнага свету сучаснасці.

На браціслаўскім сімпозіуме жартавалі: ідзе "макдональдызацыя" сучаснага свету. У адрозненне ад нас, Цэнтральная і асабліва Заходняя Еўропа даволі крытычна ставяцца да танных стандартаў амерыканскай цывілізацыі, сімвалам якой сталі закусачныя Макдональда. Таму "макдональдызацыя" гучала б як кепскі дыягназ, калі б то не было жартам.

Што дазваляе жартаваць наконт *макдональдаў*? Тое, што працэсы інтэрнацыяналізацыі моў зусім не вычэрпваюцца *макдональдамі* ды *фітнесамі*. Гэта толькі павярхоўныя і малапрывабныя яе бакі. А галоўнае ў іншым: тысячы і тысячы міжнародных слоў — гэта масткі да культурнай і ў першую чаргу прафесійнай лучнасці краін і народаў. Інтэрнацыянальныя словы складаюць важкую частку агульнай ментальнасці чалавецтва. Істотна, што гэтая лучнасць закранае і гуманітарныя веды. Сходным чынам разумець прыроду ветру ці нафты не так складана. Больш цяжка, але і больш значна мець сходныя ўяўленні ў гуманітарнай культуры. Аб тым, што рознамоўныя народы здольныя разумець адзін аднаго і ў гэтай сферы, сведчаць незлічоныя "прыяцелі перакладчыка" — інтэрнацыяналізмы: *этыка, рэлігія, мараль, псіхалогія, паэзія, сімпатыя, гісторыя, гуманізм*...

**Ніна МЯЧКОЎСКАЯ,**
**прафесар БДУ**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# НЕБА, ЧАЛАВЕК, ЗЯМЛЯ





***22 кастрычніка ў Рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры пад патранатам амбасады Японіі ў Рэспубліцы Беларусь адбылася дэманстрацыя мастацтва ікебаны. Яе праводзілі майстры школы "Согэцу" пан Катаяма і, у якасці асістэнта, пан Мікава.***



Пасля невялікіх прывітальных прамоваў пасла Японіі ў Беларусі пана Сігэо Нацуы і міністра культуры Рэспублікі Беларусь спадара Аляксандра Сасноўскага перад аўдыторыяй, а ў зале сярод запрошаных быў ледзь не ўвесь дыпламатычны корпус і таксама прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Беларусі, прэса, — пад гукі меладычнай японскай музыкі распачалося таемства стварэння кампазіцый з кветак і раслін. Адразу на вачах у гледача пластычныя рукі японскага майстра спрактыкаванымі мяккімі рухамі размяшчалі ў прасторы разнастайныя зёлкі, галінкі, каласкі, лісце і кветкі. Праз колькі хвілін узнікаў нерухомы феерверк прыгажосці. Майстар ікебаны пан Катаяма, які лічыцца адным з вядучых настаўнікаў школы "Согэцу", быў зусім не сквапным, ён шчыра дзяліўся з гледачамі сакрэтамі свайго мастацтва і яго гісторыяй.

Разам з пашырэннем будызму на тэрыторыю Японіі прыйшло дагэтуль невядомае мастацтва складання букетаў. Букетамі ўпрыгожвалі алтары ў будыйскіх храмах. Жорсткія і масіўныя "рыкка" ("кветкі, якія стаяць"), гарманіруючы з высокімі храмавымі скляпеннямі, узвышаліся над расфарбаванымі бронзавымі вазамі, што былі прывезеныя разам з храмавай маёмасцю з Кітая.

Найбольш значны прагрэс у аранжыроўцы кветак адбыўся ў XV стагоддзі, калі Японіяй кіраваў Ёсімаса, сёгун з дома Асікага (1436 — 1490). Ён адмовіўся ад празмерна мудрагелістага стылю ў архітэктуры і ў супрацоўніцтве з мастаком Сомаі спраціў правілы аранжыроўкі кветак, з тым, каб прадстаўнікі ўсіх класаў грамадства маглі атрымаць асалоду ад складання букетаў сваімі рукамі. Гэты новы, больш просты від аранжыроўкі атрымаў назву "сэйва".

Другія перамены адбыліся на працягу перыяду Мамаяма (другая палова XVI стагоддзя) са з'яўленнем чайных дамкоў, дзе майстры чайнай цырымоніі надавалі менш фармальны характар падзеі з дапамогай кветкавых кампазіцый. У гэтых мэтах быў створаны стыль "нагэірэ" (укідванне). "Нагэірэ" прадугледжвае камбінацыю трох трохкутных групаў у іх звычайных адносна адна да адной пазіцыях. Але калі класічны стыль прадугледжвае цеснае замацаванне трох групаў, прычым ні адна частка кампазіцыі не павінна судакранацца з вазай, дык "нагэірэ" дапускае больш свабоды, а кветкі могуць абапірацца на край посуду. "Нагэірэ" падкрэслівае ўменне мастака з дапамогай сваёй кампазіцыі прадэманстраваць натуральнасць выкарыстанага матэрыялу. Лініі сцяблінак і галін павінны быць "прыроднымі" і могуць перакрыжоўвацца. Прыгажосці няма там, дзе ёсць штучнасць.

На працягу мінулага стагоддзя нарадзіўся стыль "марыбана", які, у пэўнай ступені, адлюстроўвае ўплыў кантактаў з Заходнім светам. Строгая фармальнасць "рыкка" (дапушчальная толькі пры афіцыяльных цырымоніях), таксама як і натуральнасць ліній "нагэірэ", былі прызнаны незадавальняючымі там, дзе трэба было ўпрыгожыць пакоі, інтэр'ер якіх адчуў на сабе ўплыў еўрапейскага дызайну. Аранжыроўкі "марыбаны", выкарыстоўваючы больш нізкія і пляскатыя вазы, дадалі, як мінімум, яшчэ дзве трохкутныя групы раслiннага матэрыялу, але захавалі тую ж узаемасувязь пазіцый і прапорцый. "Марыбана" ў роўнай ступені спалучае элементы фармальнага "рыкка" з натуральнасцю "нагэірэ" і дадае трэці элемент — адзнаку натуральнага прыроднага наваколля з тым, каб напоўніцу перадаць сцэнічны эфект. Лістота і кветкі выкарыстоўваюцца болей шчодра. "Марыбана" прадстаўляе прыроду такой, якая яна ёсць, у імкненні выявіць у мініяцюрнай форме цэлы ландшафт альбо сад.





Школа ікебаны "Согэцу", майстры якой і дэманстравалі ў зале сваё мастацтва, была заснавана ў 1927 годзе Тэсігахарам Софу.. Ён нарадзіўся ў 1900 годзе і з 7 гадоў пачаў навучацца ікебане. Ужо ў 26 гадоў у Тэсігахары склаўся свой творчы стыль, які патрабаваў свабоднага выяўлення думак на мове кветак. Слова "согэцу" — гэта спалучэнне двух японскіх іерогліфаў "трава" і "месяц". Яно выказвае глыбокае разуменне мастаком прыроды і яе сувязі з бясконцым Сусветам. Своеасаблівай рысай стылю "Согэцу" з'яўляецца выкарыстоўванне мастаком любых матэрыялаў і посуду, узятых з навакольнай прыроды і абстаноўкі, якія гарманіруюць з ёй. Творчасць "Согэцу" мае тры ступені. Першая — "Марыбана" (кветкі ў пляскатай вазе з вадой, альбо кошыку) і "Нагэірэ" (расстаноўка кветак у вадзе такім чынам, быццам яны не сарваныя, а яшчэ растуць), гэта асноўны прынцып ікебаны. Другая — задзіночанне ў адзіным вобразе жывых прыродных матэрыялаў і неарганічных матэрыялаў. Трэцяя — абстрактнасць вобраза, выкарыстоўванне элементаў калажа, рэльефнасці, скульптуры.

Прынцыпы мастацтва аранжыроўкі кветак у ікебане звязаны з лініяй, рытмам і колерам, з дапамогай якіх можна стварыць ўражанне жывой расліны.

Аснова кампазіцыі закладаецца трыма галоўнымі лініямі, якія сімвалізуюць Неба, Чалавека і Зямлю. Яны фармуюць раму, на якой будуецца ўся канцэпцыя японскай аранжыроўкі кветак. Найбольш важную лінію трымае сцябліна альбо галіна, што сімвалізуе Неба і часта называецца асновай, альбо "сін". Яна з'яўляецца цэнтральнай лініяй усёй кампазіцыі, і для яе выбіраецца самы моцны матэрыял.

Наступная лінія Чалавека — "соэ" — размяшчаецца такім чынам, каб стварыць уражанне росту ўбок і ўверх ад цэнтральнай лініі. Па вышыні яна павінна быць у 3/4 асноўнай лініі і вершаліна павінна схіляцца да "сін".

Трэцяя лінія "хікаэ", лінія Зямлі, самая кароткая, ставіцца наперадзе з ухілам на край ад каранёў першых дзвюх ліній. Усе элементы надзейна замацоўваюцца, каб стварыць уражанне расліны на адной сцябліне. Можна дадаць кветак, каб запоўніць прастору, але асноўнае значэнне мае правільнае размяшчэнне трох прынцыповых сцяблін.

Прыступаючы да аранжыроўкі, мастак ставіць паднос з усім неабходным матэрыялам справа, а вазу — прыкладна ў паўметры перад сабой. Безумоўна, лягчэй складаць букет у вазе, якая знаходзіцца блізка, але каб ацэньваць у часе аранжыроўкі кветкі правільна, неабходна вазу некалькі ад сябе адсунуць. Посуд павінен быць трошкі ніжэй лініі вачэй, але лепей паставіць яго завысока, чым празмерна нізка, каб пазбегнуць магчымасці глядзець на кампазіцыю зверху, бо вынік будзе зусім іншы, чым задуманы.

Кветкі і галіны варта аранжыраваць так, каб яны былі жорстка замацаваны. Кампазіцыю трэба асцярожна зафіксаваць у вазе. Каб гэтага дасягнуць, неабходна акуратна сагнуць ніжнюю частку сцяблін альбо галін, каб яны абапіраліся на ўнутраную паверхню вазы.

Каб захаваць кветкі свежымі, ужываюць хімічную і фізічную апрацоўку. Прасцейшая з іх называецца "мідзукуры" — абрэзка сцяблін у вадзе. Гэта дапаможа захаваць абрэзаныя кончыкі сцяблін ад уздзеяння паветра, якое здольнае пагоршыць далейшае ўсмоктванне вады. З хімічных метадаў можна назваць выкарыстоўванне салянай кіслаты альбо сернай кіслаты, некалькі кропель якіх дадаецца ў ваду для ажыўлення раслін. Яшчэ прасцей узяць жменьку солі і ўцерці яе ў кончыкі сцяблін.

Правілы ікебаны з першага погляду вельмі ўстойлівыя і патрабавальныя, тым не менш канцэпцый і меркаванняў існуе вельмі і вельмі многа, як і саміх школ аранжыроўкі кветак. Майстры кажуць, што не абавязкова ва ўсіх выпадках жорстка вытрымліваць усе правілы, але асноўныя прынцыпы мастацтва ікебаны скрупулёзна захоўваюцца і выконваюцца.

А дэманстрацыя ў Рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры завяршылася пабудовай грандыёзнай кампазіцыі з выкарыстоўваннем ствалоў бярозы.

**Сямён ПТАХ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

К КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ПЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 30.10.97. у 16.00.

Замова 6426

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**